ПО ХОДУ ДЕЛА



Семен БУКЧИН

# О «людях твердых убеждений»

Читателю, полагаю, известно, что я не психотерапевт. Но в какой-то степени публицист иногда вынужден брать на себя функции, близкие к психотерапевтическим. Когда приходится фиксировать определенные проявления в сфере общественной психики.

Вообще позволительно ли ставить и более широкий вопрос: в достаточно ли адекватном обществе мы живем? Сознаю наглость этого вопроса. Тем более что сумасшедшие у нас толпами по улицам вроде не ходят. Да что там толковать! В любом обществе, в любой стране есть эти самые "неадекваты".

Чего стоит один Брейвик!

Но я, собственно, о другом. Меня больше интересуют случаи, когда неадекватность выступает как нечто вполне привычное, нормальное и более того — требующее признания как единственно правильное мнение и суждение. И, что поразительно, получающее этот статус. Или почти получающее. Притом под такой жизнеутверждающей вывеской, как "голос народа".

Но если "неадекваты" — это "голос народа", тогда кто же ты? А ты никто! Ты — интеллигент зачуханный. А может, еще тайный белорусофоб? Сионист? Западнорус? Или все-таки скрытый белорусофил? Националист? Пазьняковец?

Но как бы там ни было, мы тебя, гада затаившегося, на чистую воду выведем!

О чем бы у нас ни зашла речь, "неадекваты", эта наша национальная полиция, начинают свое глубокое бурение.

Вот о Калиновском заговорили в связи со 150-летием восстания. Ну, естественно, самые бдительные тут как тут.

А ну-ка, давай, исторический герой, раскрывай паспортные данные! Ты кто? Говоришь, за белорусских мужичков выступал? А сам небось за Польшу стоял, шляхта проклятая! Про независимую Беларусь и не мечтал даже! На чуждой народу латинице свою "Мужицкую правду" выпускал!

У "национальной полиции" есть свои критерии, кто истинный белорус, а кого и близко таковым именовать нельзя. Вот, скажем, утверждает человек, что он белорус, а говорит по-русски — это, безусловно, враг, прокравшийся в наш лагерь. Маску такую нацепил, видишь ли. А мы эти маски срывать будем!

Да и с белорусами разобраться надо! Те из них, кто не называет себя литвинами, тоже предатели. А заодно и те, кто литовцев не желает называть их истинным прозвищем — летувисами. А еще лучше — жмудинами. Ведь что получается: захватили соседи наше историческое самоназвание, и вот нам теперь приходится именоваться так, как окрестили нас проклятые москали — какими-то белыми русами. Оттого и самосознание у нас низкое, а от этого в свою очередь все беды наши.

Вообще выверты "патриотического сознания" могут быть совершенно неожиданными. Вот один журналист недавно задался вопросом: должен ли он гордиться Викторией Азаренко? Ну не отвечает знаменитая теннисистка его национальным стандартам. Он вроде и чувствует, что надо бы гордиться, поскольку своя, коренная, белоруска стопроцентная. Но вот както незаметен в ней национальный дух, что ли. И это мешает... Страдает бедняга-журналист от этой раздвоенности.

Признаюсь, и ко мне иной раз патриотически настроенный читатель подступает с суровыми вопросами. Вот один, чьи заметки появляются в "Народной Воле" под впечатляющей подписью "Ветеран Вооруженных Сил", в присланном мне письме буквально требует раскрыть мое "подлинное лицо". Поскольку, с одной стороны, я вроде бы демократ и стою за Беларусь, а с другой — как-то подозрительно выглядят мои писания, вроде бы не такой уж я и демократ и не совсем за Беларусь...

И мне уже хочется каяться. А что? Может, я действительно не совсем демократ? Читатель у нас бдительный. Может, он что-то действительно узрел, чего я сам в себе не вижу?

Вот и недавно я получил урок такой бдительности. Читатель Н.А.Какарека, познакомившийся с моей статьей, посвященной польскому художественному фильму "Poklosie", в котором поднимаются острейшие проблемы национальных отношений, сделал неожиданный вывод о том, что я выступаю против реставрации старинных замков в Беларуси и вообще против общественного внимания к белорусскому прошлому ("Народная Воля", 25 января). Но в моей статье нет ничего подобного! В самом конце ее, после рассказа о польском фильме, я пишу о том, что у нас подобные фильмы на острейшие современные темы невозможны, их нет. Зато про Радзивиллов "можно сколько угодно", "блеск старого магнатства и шляхетские традиции призваны сегодня декорировать авторитарный режим". Скажите, где тут "критическое отношение к восстановлению и реставрации замковых комплексов и их владельцам"? Но автор письма в "Народную Волю" желает видеть только то, что он желает видеть. И потому начинает поучительную лекцию под названием "История белорусов начиналась не в 1917 году". В общем, ничего нового. Есть такой общеизвестный прием: приписать автору то, чего он не писал и не утверждал, а потом на это приписанное обрушиться с разоблачительным пафосом.

А пафос этот может далеко завести. Вот и Н.А.Какарека, рассказав о том, что "замки — это культурно-историческое наследие нашей страны", а заодно и о Магдебургском праве, приходит к выводу о том, что я вряд ли перечислю "свой гонорар или премию в общественный фонд строительства памятника Миндовгу".

Скажу прямо: за долгую жизнь в публицистике на меня многое вешали, но вот определять мою позицию через возможный сбор средств на памятник Миндовгу — это впервые. Ничего не скажу — сильный прием. И я действительно в растерянности. Дашь на памятник — не поверят, скажут — маскируется негодяй. А не дашь — ну тут вообще о чем речь?

В трудных ситуациях я бегу за утешением к Щедрину. Вот и на сей раз вычитал в "Истории одного города": "Идиоты издали могут показаться людьми твердых убеждений, но это обман, они просто ломятся вперед, не сознавая окружающего".

СІТУАЦЫЯ

## Няма таго добрага, што не зробіць жыццё яшчэ горшым

*"Хатняе" мяса на рынках стане больш дарагім. Пра гэта папярэджваюць гандляры, якія атрымалі прадпісанне аб увядзенні ў дзеянне новых ветэрынарна-санітарных правіл.*

Справа ў тым, што цяпер, перш чым свініна ці ялавічына трапіць на прылавак рынку, яна павінна будзе прайсці праз мясакамбінат ці іншую арганізацыю, якая мае права на забой жывёлы. Самі фермеры ці ўладальнікі прыватных гаспадарак больш не будуць мець права рэалізоўваць мяса жывёл, забітых па-за межамі спецыяльных прадпрыемстваў.

Зразумела, што цяпер, перш чым прадаць мяса, гаспадар будзе вымушаны знайсці і аплаціць транспарт, каб адвезці жывёл на спецыяльную бойню ці на мясакамбінат, аплаціць паслугі гэтых прадпрыемстваў. Вось з-за гэтых дадатковых ланцужкоў і ўзнікне рост коштаў. Да таго ж пры такім падыходзе пра тое, каб купіць свежае мяса на рынку, можна проста забыцца. Адным словам, у чарговы раз улады "паклапаціліся" пра народ. Хацелі ж як лепей...

**Алена НОВІКАВА.**

УВАГА!

## Міністр папярэдзіў пра надыход эпідэміі грыпу

*Міністр аховы здароўя Васіль Жарко заявіў, што эпідэмія грыпу чакаецца ў бліжэйшы час.*

*"Паводле нашых разлікаў, эпідэмія павінна пачацца ў лютым. Люты ўжо наступае. Можа быць, эпідэмія грыпу будзе праз тыдзень",* — заявіў Васіль Жарко.

Пры гэтым ён адзначыў, што лекаў для лячэння і прафілактыкі грыпу ў нашай краіне дастаткова. І сітуацыя пад кантролем.

РЭГІЁН

## Без «чарніла» аніяк

*У Магілёве скасаваны абмежаванні на продаж пладова-ягадных він, якія ў народзе завуць "чарнілам".*

Абмежаванні скасаваны рашэннем выканаўчай улады горада, але прычыны гэтага пакуль не вядомы.

Пастанова пра абмежаванне продажу "чарніла" з'явілася ў кастрычніку 2011 года. Прадаваць "чарніла" дазвалялася на працягу 5 гадзін у суткі, што тлумачылі барацьбой з алкагольнай залежнасцю насельніцтва. Тады ж прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч заявіў, што з 1 студзеня 2013 года вытворчасць і рэалізацыя пладова-ягадных він у Беларусі будуць спынены. Але супрацьстаяць тым, хто ад бутэлькі да бутэлькі толькі і жыве, уладам моцы не хапіла.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Крыўда,

## альбо Пра тое, як «беднае» Сёмкава не можа вырашыць водаправодную праблему...



*Сёмкава — даўно не глухамань: былая вёсачка (колісь мела назву Сёмкаў Саламарэцкі) за новым часам ператварылася ў элітны пасёлак, які сваімі сядзібамі сапернічае з гэткімі ж "рублёўкамі" ўсцяж Мінскай кальцавой і Заслаўскага вадасховішча. І жывуць тут не якія-небудзь паляводы-жывёлаводы, а ўсё больш заможныя людзі — сталічнае чынавенства ўперамешку з "новымі беларусамі".*

*У свой час, пакуль галота выжывала, а дэмакраты біліся за новую Беларусь, управаўныя людзі маўкліва будавалі светлую будучыню. І тое "светлае" з бегам часу ўвасобілася ў рэальнасць: дамы-харомы, садочкі, зялёныя газоны з альтанкамі, розныя джакузі і саўны... Зноў жа — сталіца побач, а там кватэры з усімі выгодамі. Карацей, жыві ды радуйся... Але для поўнага шчасця тубыльцам таго-сяго нестае.*

*Ну хоць ты плач — нестае! Не хапае, напрыклад, цэнтралізаванай каналізацыйнай сістэмы, аптэкі, крамы, аўтобуснага прыпынку. А яшчэ — звычайнай пітной вады, якая цякла б па трубах з даўно прабуранай артэзіянскай свідравіны. Свідравіна як быццам ёсць, і воданапорная вежа стаіць, і трубы часткова пракладзены, а вады як не было ў паловы прыватнікаў, так і няма.*

*Дык у чым загваздка? Чаму краны сухія, а людзі ўмакрэлі ад роспачы і злосці? Хто тут ставіць палкі ў калёсы? "Прыязджайце на месца, там і высветлім, — чулася з другога канца лініі. — Не далёка ж — ад сталіцы якіх 15 вёрст..."*




Па заснежанай шасейцы Калодзішчы—Заслаўе імчу ў згаданым напрамку. Вось і паваротка на новае Сёмкава: вуліцы Светлая, Вясёлкавая, Высокая... Ля дома №5 па вуліцы Круглай сустракае гаспадар сядзібы Уладзімір Андрэевіч Шыловіч і ягоная жонка Жанна Валянцінаўна. За кубачкам кавы выслухваю набалелае, чытаю перапіску-баданне месцічаў з уладай. Тое баданне безвынікова цягнецца ад пачатку 2011 года...

"На ўсе нашы просьбы, скаргі — адны адпіскі, — жаліцца гаспадар, — шпурляюць паперы па крузе. А круг такі: Адміністрацыя прэзідэнта, Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці, Мінаблвыканкам, раённая "вертыкаль"...

На самым пачатку 2011 года мы, жыхары Сёмкава, звярнуліся да старшыні Мінаблвыканкама Барыса Батуры, каб той асабіста звярнуў увагу на нашы праблемы і даў адпаведнае даручэнне сваім падначаленым — разабрацца. Ліст падпісаў 51 чалавек, — распавядае далей Уладзімір Андрэевіч, — але нічога канкрэтнага ад спадара Батуры так і не дачакаліся. Ні па першым звароце, ні па другім, ні па трэцім... Тады вымушаны былі звярнуцца да кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта (на той час Уладзіміра Макея) і да старшыні Камітэта дзяржкантролю Аляксандра Якабсона. Вось вытрымка з нашага пісьма: ***"Па ўсіх пастаўленых раней пытаннях намі атрымана адпіска Мінскага аблвыканкама. Ніводнае пытанне не вырашана. Прадстаўнікі мясцовай улады так і не з'явіліся ў населеным пункце. На землях, што ўздоўж нашых вуліц і належаць Папярнянскаму сельскаму Савету, творыцца сапраўдны бардак. Шмат якія ўчасткі ўжо па 5—10 гадоў не забудоўваюцца, і стан іх жахлівы. Дзяржаўныя грошы, выдзеленыя для пракладкі водапровода, выкарыстоўваюцца неэфектыўна і, можа, нават губляюцца ў невядома чыіх "кішэнях". Тым часам якаснай вады так і не маем... Знаходзячыся за 10 кіламетраў ад Мінска, у самым цэнтры Еўропы, жывём, нібы ў каменным веку. То да якой пары будзе гэты бардак і ці ёсць у нас улада, якая здольна аператыўна вырашаць надзённыя для жыхароў пытанні? Спадзяёмся, справай дакажаце, што такая ўлада ёсць".***

**— Але што вас, людзей далёка не гаротных (вунь якія харомы павыбудоўвалі!), турбуе канкрэтна? — пытаюся ў Шыловічаў. — Няўжо ў такіх файных катэджах поўная адсутнасць вады? Неяк з цяжкасцю верыцца...**

— Дамы ладныя, але ж без вады — і ні туды, і ні сюды. Справа ў тым, — тлумачыць гаспадар, — што пасёлак вялікі — недзе каля 200 сядзіб — і калодзежамі тут не абыдзешся. Таму па генплане і прадугледжаны водапровод, каб, значыцца, з адной свідравіны карыстацца ўсім. Толькі пракладзены той водапровод напалову, не давездзены да ладу. Грошы бюджэтныя ўбуханы немалыя, а толку ніякага — кожны выкручваецца па-свойму. Многія ўжо парабілі свае ўласныя свідравіны, самавольна пампуюць ваду з тоўшчы зямлі. Але ж хіба гэта разумна? Уяўляеце, дзвесце свідравін на абмежаванай плошчы — гэта ж здзек з экалогіі! І потым, навошта бурылі глыбінныя свідравіны, ставілі воданапорную вежу, пракладвалі трубы?

**— Уладзімір Андрэевіч, відаць, і на вашай сядзібе ўласная свідравінка маецца? Ці чакаеце дзяржаўнай ласкі?..**

— Канечне, ёсць... І ў суседніх дамах таксама. Непадалёку, на сядзібе Леаніда Пятровіча Козіка — старшыні Федэрацыі прафсаюзаў, мабыць, таксама свая свідравіна. Дзеці ягоныя ў нашым Сёмкаве пабудаваліся, не думаю, што калодзежамі карыстаюцца. Дарэчы, калі збіраліся подпісы пад зваротам да ўлад, Леанід Пятровіч чамусьці адлыніў, спаслаўшыся, што некуды спяшаецца. У нашым пасёлку, між іншым, даволі шмат чыноўнікаў высокага рангу, ёсць нават адзін намеснік міністра. Праўда, з ім асабіста я не знаёмы.

**— І што думаеце рабіць далей? Здаецца ж, усе інстанцыі патрывожылі скаргамі. На каго яшчэ спадзяванка, Уладзімір Андрэевіч?**

— Нават не ведаю, што і казаць... Хіба што на вашу газету адна надзея. На апошняй прэсканферэнцыі Аляксандр Лукашэнка — сам тое чуў — прамовіў, што іншым разам праглядвае "Народную Волю". То, можа, і цяпер не праміне... Як бы там ні было, а праблему трэба вырашаць, і не толькі з вадой. У нас аніякай медыцынскай установы, аптэкі таксама няма, крама паўразбураная — туліцца сярод здзічэлага хмызу і не працуе, замест сучаснай каналізацыі — выграбныя ямы, аўтобусны прыпынак — за тры кіламетры... Карацей, на чыноўніцкіх паперах усё гладка, а ў рэальнасці — зусім гадка!

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**



НУ І НУ!

## У асобных спартыўных клубах атрымліваюць па 420 мільёнаў рублёў у месяц

*Пра гэта паведаміў намеснік старшыні ўрада Анатоль Тозік.*



*"Гэта за межамі здаровага сэнсу",* — лічыць віцэ-прэм'ер па сацыяльных пытаннях. Прычым замежнікам нярэдка плацяць больш, чым нашым ігракам. Да прыкладу, сярэдняя зарплата беларускіх спартсменаў у брэсцкім "Дынама" ў мінулым годзе склала 7 мільёнаў, а легіянеры атрымлівалі ў тры разы больш.

Старшыня асацыяцыі "Беларуская федэрацыя футбола" Сяргей Румас, аднак, не падтрымлівае засцярог наконт высокіх заработных плат беларускіх футбалістаў, якія ніякімі асаблівымі дасягненнямі пакуль, шчыра прызнаем, не вызначыліся. *"Калі клуб знаходзіць крыніцы, знаходзіць спонсараў — хай плаціць. Бо калі б БАТЭ не меў магчымасці прыцягваць спонсараў і атрымліваць добры бюджэт, хіба ён выйшаў бы ў групавы этап і так удала згуляў? Не, не было б гэтага,* — адзначыў Румас. — *Сёння ў дакументах прадстаўлена, што ў БАТЭ высокая зарплата — 225 мільёнаў. Але нідзе няма зноскі, што 80% таго бонуса, які яны атрымалі за выхад у групавы этап, яны накіравалі на выплату ўзнагароджання. Гэта не бюджэтныя грошы. Без гэтага бонуса заробак быў бы ў тры разы ніжэй".*

Вось цікава: калі ў самым паспяховым клубе БАТЭ сярэдні заробак 225 мільёнаў, то чаму ж тады ў хакейным клубе "Дынама", які ніякімі дасягненнямі не вызначыўся, 420?!

**Ілля МАРКАЎ.**

ТРАГЕДЫЯ

## Адзін за адным

Дв браты памерлі ў Мінску на вуліцы Якубава. Старэйшы з іх прыйшоў да малодшага дадому, але быў выстаўлены. Справа ў тым, што ён быў хворы на сухоты, злоўжываў спіртным, і сваякам гэта не падабалася.

Аднак мужчына такой крыўды не вынес і прама ў пад'ездзе дома павесіўся на рэмені ад штаноў. Праз некаторы час 49-гадовы малодшы брат выйшаў з кватэры і ўбачыў, што здарылася. Ён паспеў выклікаць міліцыю і "хуткую дапамогу", але потым яму самому зрабілася дрэнна. Ужо пасля прыбыцця ўрачоў мужчына памёр ад сардэчнага прыступу.

ПРЫГАВОР

## Сядзець!

Мінскі гарадскі суд адхіліў абскарджанне прысуду ў дачыненні да заснавальніка ТДА "Перспектыва-Інвест Буд" бізнесмена **Сяргея Дземчука**.

Нагадаем, 3 снежня суд Першамайскага раёна прызнаў яго вінаватым у махлярстве ў асабліва буйным памеры (частка 4 артыкула 209 КК), якое было здзейснена падчас долевага будаўніцтва ў Мінску. Такім чынам, сем гадоў судовых разбіральніцтваў скончыліся.

Паводле прысуду, Дземчука чакае канфіскацыя маёмасці і 8 гадоў у папраўчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму. Суд таксама пастанавіў спагнаць з вінаватага і кампенсацыю маральнай шкоды, а маёмасць, на якую быў накладзены арышт, звярнуць у кошт пакрыцця шкоды.

Па словах дзяржабвінаваўцы, "грашовыя сродкі былі выкарыстаны для падтрымання фінансавага стану падкантрольных Дземчуку фірм". На нервовай глебе, запэўніваюць дольшчыкі, у некалькіх чалавек за перыяд цяжбы з інвестарам былі дыягнаставаны цяжкія хваробы, адзін чалавек ужо памёр. Нагадаем, што гаворка ідзе пра 19 мільярдаў рублёў, якія пацярпелыя — а іх 128 чалавек — унеслі на будаўніцтва жылога комплексу ў прэстыжным месцы побач з Нацыянальнай бібліятэкай у квартале вуліц Філімонава, Парніковай, Макаёнка і праспекта Незалежнасці. Аднак будаўніцтва так і не адбылося. Тым не менш першым судом Дзямчук увогуле быў апраўданы.

НЕПРЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ

*Пётра САДОЎСКІ*

# Адкладзеная помста

Жыццёвую гісторыю, якую я хачу распавесці, мне расказала гадоў 25 таму мая часовая калега па курсах удасканалення настаўнікаў у Мінску, дзе я чытаў лекцыі па беларусазнаўстве. Яна была старэйшая за мяне гадоў на дзесяць. Мне было далёка за сорак, ёй — нямала за пяцьдзясят. Нас зблізіла тое, што мы абодва гаварылі па-беларуску і заўсёды аднолькава смяяліся з таго, што было сапраўды смешна. Праўда, я не так хутка, як яна, выходзіў з вясёлага стану. Ейныя вочы маглі неяк раптам спахмурнець, але ў такія хвіліны яна рабілася маладзейшай і загадкавай, што, шчыра кажучы, і з'явілася першай прычынай той увагі, якой я пачаў "выдзяляць" яе з ліку маладзейшых і знешне сучасна прывабных.

Пераказваю гэтую гісторыю так, як яна мне запомнілася.

"У перадапошні год акупацыі да нас у хату панадзіўся хадзіць немец з гаспадарчай каманды. Яму вельмі падабалася наша маці. Немцу было гадоў за 50, ён паказваў нам фота сваёй жонкі і дзвюх дачок, якія заўсёды насіў у сваім партманеце. Нашай маці было трошкі больш за сорак. Акрамя мяне ў нас быў яшчэ меншы брат. Яму было 5 гадоў, а мне было 13. Бацька наш знік без вестак у першыя дні вайны.

Немец — яго звалі Райнэр — быў увесь рыжы, як суседаў сабака, па-вясковаму — руды. Ён заўсёды прыносіў з сабою нешта з ежы: бляшанкі з кансервамі, цукар, галеты і абавязкова выпіўку. Прыходзячы, ён загадваў маці, каб яна выпраўляла нас з братам з хаты "шпацырэнгеэн", даваў нам з братам цукеркі і зашчэпліваў з сярэдзіны дзверы на засаўку. Так працягвалася даволі доўга: першы раз ён прыйшоў, калі мы толькі бульбу пасадзілі, а той раз, пра што я хачу расказаць, калі ўжо лён на таку сушылі. Тады ён хадзіў да маці на ток, дзе я ёй таксама дапамагала вязаць трасту, і заставаўся з мамай там.

Аднойчы, прыйшоўшы з току, маці сказала мне: "Дачушка, заўтра к нам дадому зноў прыйдзе дзядзька Райнэр, ён сказаў, што хоча пабыць з табой адной... Ты ўжо дарослая, усё разумееш. Ён цябе не пакрыўдзіць, не будзе так, як са мною. Ён толькі цябе пагладзіць, сфатаграфуе, папросіць, каб ты зрабіла, што ён скажа... Калі не, тады ён пажартаваў, што зробіць пух-пух..." Маці расплакалася. Я зрабіла тое, што сказала маці... Немец стрымаў сваё слова і не крануў мяне так, як ён рабіў гэта з маці.

З таго часу прайшло амаль 50 гадоў, але я да драбніц памятаю ягоны твар, жоўтыя пракураныя зубы, велізарны кадык, пазеленелы персцень на малым пальцы левай рукі... Калі-нікалі ён прыходзіць да мяне ў сне... Тады я крычу, муж супакойвае мяне. Я мужу нічога не расказвала.

З месяц таму я ездзіла ў Віцебск у абласны інстытут удасканалення настаўнікаў чытаць лекцыі. Ехала начным цягніком Мінск—Віцебск. У купэ нас было чатырох: маладая прыемная пара, муж і жонка, рыжы маўклівы мужчына пенсіённага ўзросту ў вайсковых афіцэрскіх штанах з вузкай блакітнай лампасінай і я. З маладой парай мы неяк адразу сышліся, разгадвалі красворд, а потым нават выпілі пляшку "Ізабэлы", якую паставіў на столік муж маёй дарожнай знаёмай. Няўзнак перайшлі на беларускую мову. Асабліва прыгожа гаварыла маладзіца. Мы нават спрабавалі нешта ціхенька спяваць па-беларуску. Наш маўклівы сусед усё нешта круціўся-круціўся, а потым ускочыў, стаў, як бы рукі па швах, і зароў, як бык: *"А ну прекратить разговоры на вашем смердячем языке! Я сейчас проводника приведу. Что вы тут националистические пьяные оргии устраиваете! Мы вам скоро хвост прищемим... Я и теперь, если захочу, на тебе пересплю, лаптюжная бульбашка!"* Пры гэтым дзядзька неяк ненатуральна зарагатаў, паказваючы свае жоўтыя пракураныя зубы. Ягоны твар стаў зусім рыжы, жылы на шыі напрэндзіліся, з-пад расшпіленага каўняра армейскай кашулі вытыркнуўся вялізны кадык. Ён зрабіў пагрозлівы рух рукамі ў мой бок, як бы збіраючыся схапіць мяне за горла...

Я не ведаю, як гэта адбылося, але мне здалося, што перада мною той руды немец, і я ўчапілася абедзвюма рукамі за каўнер ягонай кашулі і пачала яго піхаць. Ён зароў, як парсюк, вырваў мне адну завушніцу, пачаў біць мяне нагамі. Прыбег праваднік, збегліся пасажыры з іншых купэ. Праваднік і наш сусед па купэ і сама гэтая рудая морда не маглі разняць мае пальцы, сашчэпленыя на каўняры. Яны як акасцянелі. Калі нас разнялі і рудога перавялі ў іншае купэ, я заўважыла, што я размаўляю па-беларуску і не магу перайсці на расійскую. Быццам нешта перагарадзілася ў галаве. Мне стала страшна. Спрабую гаварыць па-расійску — нічога не выходзіць. Толькі нейкі рык з горла ідзе. Сяджу і плачу. Суседзі таксама перапужаліся. Ноччу я ні на хвіліну не заплюшчыла вочы. Мае суседзі хутка заснулі. Раніцай, калі цягнік прыйшоў у Віцебск, яны давялі мяне, як хворую, да гатэля. Думала, там гадзінку пасплю. Не атрымалася. Прыехала толькі апоўдні ў інстытут. Там метадысты ведаюць мяне ўжо год дзесяць. Здзіўлена сустрэлі мяне, беларускамоўную: да гэтага я заўсёды гаварыла з імі па-расійску. Не ведаю, што яны падумалі. На заўтра паставілі мне першую лекцыю. Я прачытала яе па-беларуску, толькі заўважыла, што не магу дасканала зразумець пытанні на расійскай мове. Пачала балець галава.

На другі ж дзень вярнулася ў Мінск, не прачытаўшы запланаваны курс. Муж і дачка перапужаліся. Муж падумаў, што я п'яная. Дома я ніколі з ім па-беларуску не гаварыла. Назаўтра муж павёў мяне да псіхіятра. На сеансе гіпнозу доктар, выслухаўшы маю гісторыю, увёў мне ў галаву, што руды немец і той руды пасажыр у штанах з лампасамі больш да мяне ў сне прыходзіць не будуць. І я зноў прыйшла ў нармальны стан. Зараз я — як усе беларусы... Баюся з незнаёмымі людзьмі гаварыць па-беларуску, а то раптам зноў акасцянею.

ЧЫТАЧ — ГАЗЕТА

## *Не вернеш...*

Успамінаецца мне рэпліка з інтэрнэту "Вярні 18 гадоў". Час не пазыка, яго не вернеш. Стрэлкі назад не перавядзеш, спружыну не адкруціш. 18 гадоў, якія маглі б стаць часам развіцця, пошуку і руху наперад, незваротна страчаны. Скрадзены ў Рэспубліцы Беларусь і ў нас, яе грамадзян. Намі прадстаўнікі ўлады відавочна грэбуюць — за нашу недасведчанасць, за нашу легкавернасць, за схільнасць да прыстасаванства. Але гара хлусні, якая высіцца ўжо да неба, рана ці позна яе, уладу, пахавае, быццам снежная лавіна.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ.**

*Мінск.*

ХОЧУ СПРОСИТЬ...

## *Звон в ушах*

***Нет-нет да и бывает такое. С чем это связано, к какому врачу мне лучше обратиться?***

**Ольга Кравцова, Минск.**

Звон в ушах — это симптом, а не болезнь. Возникает он при самых различных заболеваниях — повышенном артериальном давлении, атеросклерозе сосудов головного мозга, изменениях в слуховом аппарате. Совет нужно держать с кардиологом, невропатологом и оториноларингологом.

ХОЧУ СКАЗАТЬ...

# Вот такая у нас борьба с коррупцией!

Опишу вам ситуацию, которую увидел при капитальном ремонте нашего дома. Самый больной вопрос — это замена окон. Наш дом пятиэтажный, имеет примерно 500 окон, но многие жильцы уже поменяли старые окна на новые. То есть всего примерно 350 новых окон, осталось поменять 150. Вот тут-то и интрига. ЖРЭО выступает заказчиком по замене окон и якобы делает обследование, то есть выясняет, сколько окон необходимо заменить в доме. Но обследование фактически не проводилось. Это несложно узнать, позвонив любому жильцу нашего дома, — никто инспекторов в глаза не видел.



То есть ЖРЭО может заказать не 150, а 300—400 окон, и эти лишние использовать в целях наживы. Учитывая, что окна стоят от 200—300 долларов, представляете, какие большие деньги можно иметь! И ведь ситуация существует в масштабах всего города. Это миллионы долларов чьих-то доходов.

В этой связи я предложил, чтобы в кооперативных домах, где мы являемся собственниками, в актах обследования по замене окон участвовал собственник в лице председателя кооператива. Написал об этом в Мингорисполком. Мингорисполком отправил мое письмо в ГО "Минское городское жилищное хозяйство". Там ответили, что у них свой контроль, а участие собственника не предусмотрено законом.

Тогда я написал в Комитет госконтроля. Тоже отправили письмо в Минжилхоз. Те снова ответили, что у них свой контроль.

Тогда я написал в газету "Советская Белоруссия". Предложение вновь переслали в Минжилхоз. Ответ прежний — у них свой контроль.

Тогда я написал в Администрацию президента. Где-то в начале ноября 2012 года. Оттуда вообще не ответили.

Возникает вопрос: почему собственник не может участвовать в обследовании по замене окон? Что это за грандиозная проблема? Что за секрет?

То есть получается, как в басне: тот, кто заказывает музыку, тот сам себе назначает цену за наши деньги.

Меня удивляет еще вот что: я писал, что обследования не было, и ни одна инстанция не отреагировала на это.

Никто не пришел, не проверил. Вот такая у нас борьба с коррупцией.

О себе. Мне 72 года, образование высшее, окончил консерваторию. Я всегда считался активным членом общества, был председателем профсоюза в консерватории, а по месту работы был много лет председателем народного контроля. В 1989 году я, первым из учителей в стране, по собственному желанию вышел из партии. Потому что мой отец — ветеран трех войн, летчик — сам вышел из партии, увидев этот бардак. Его примеру последовал и я.

**Валерий Григорьевич ЗУБКОВ.**

*Минск.*

О ВАЖНОМ

# Как Беларусь потеряла Марию...

В одном из номеров "Народной Воли" читатель сетовал на то, что у нас нет гражданского общества. А откуда оно появится? Нет условий для его формирования.

Вот только один пример. В райцентре девчонка, назовем ее Марией, окончила среднюю школу и поступила в Гомельский университет на факультет иностранных языков. Правда, не хватило нескольких баллов, чтобы учиться за счет бюджета. А у семьи возможности оказались ограниченными. И она задумалась: как быть? А тут еще в деканате предупредили: если после первого курса не будет внесена плата, хотя бы частично, за учебу на втором, то ее могут отчислить.

Решила не рисковать, а искать счастья в другом месте. По конкурсу прошла в гувернантки в Германии. Переехав, она решила сразу же пойти на курсы немецкого языка, чтобы хорошо подготовиться к поступлению в немецкий вуз. Но ей сказали, что у нее отличный немецкий и она может без курсов поступать в любое учебное заведение. И что вы думаете — поступила. Воспитывала чужих детей и училась. Когда в семью хозяйки вернулась прежняя гувернантка, ей нашли новое место. И с новой хозяйкой она объездила не только всю Германию, но и Италию, Францию, Англию. Поскольку у девчонки действительно прекрасные лингвистические способности, то она со временем стала владеть и языками этих стран.

Зная семью Марии, я при каждой встрече с ее родителями интересовалась: "А она вернется в Беларусь?" — "Конечно, конечно, вернется", — слышала в ответ.

Но шло время, а Мария не возвращалась. Окончив колледж, она поступила в Гамбургский университет и отлично прошла весь курс обучения. Получила высокооплачиваемую работу. Вышла замуж за такого же приехавшего в Германию, но уже имеющего немецкое гражданство молодого человека. Сняли квартиру. Счастливы, всем довольны. Зачем ей возвращаться в Беларусь?

Так, гражданское общество формируется прежде всего из грамотных, культурных, старательных людей. Таких, как Мария. Но ее наша страна, скорее всего, потеряла навсегда. Ради чего ей, имеющей два европейских диплома, знающей пять языков, возвращаться в Беларусь? Чтобы устроиться в школу и иметь мизерную зарплату? Подличать в избиркомах, боясь потерять работу? Нет, она уж лучше останется в Германии.

А сколько других молодых людей покинули Родину и нашли свое счастье в чужих странах! У нас судят о человеке не по его способностям, не по его таланту, а по его взглядам. Не поддерживаешь идеологию власти — не свой, не продвинешься по службе, не сделаешь карьеру. А значит, и благосостояние твое будет нищенское.

Все это не способствует формированию свободного гражданского общества. А страна, где власть делит людей на "своих" и "чужих", не имеет будущего.

**Зинаида Романовна СЕНЬКО, жительница г.Мозыря.**

НУ И НУ!

## *«Паспорт ваш недействителен...»*

В паспорте моей жены, послевоенной воспитанницы детского дома, не указана дата рождения. Пошла она в обменник поменять рубли на доллары. А ей говорят: "Паспорт ваш недействителен, и по нему валюту поменять не можем".

Вот чудеса! До этой поры был всегда и везде действителен, а сейчас уже нет. Обидно, не правда ли?

**Александр Эдуардович ВАРАКСА, пенсионер.**

*Минск.*


РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ / РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ
Прозвішча/Фамилия
ВАРАКСА / ВАРАКСА
Імя/Имя
ВОЛЬГА / ОЛЬГА
Імя па бацьку/Отчество
ІВАНАЎНА / ИВАНОВНА
Дата нараджэння/Дата рождения
XX XX 1937
Асабісты №/Личный №
4010137A043PB3
Месца нараджэння/Место рождения
УКРАІНА, Г МІКАЛАЕЎ / УКРАИНА, Г НИКОЛАЕВ
Дата выдачы/Дата выдачи
26 06 1998
Тэрмін дзеяння/Срок действия
01 01 2037
[redacted]
Орган, які выдаў пашпарт/Орган, выдавший паспорт
ЗАВОДСКІ РАУС Г.МІНСКА

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## *Анатоль ЦЫРКУНОЎ*

### Мае гады — маё лякарства

*Не скарджуся, не ныю, не прашу,*
*Не галадаю, ёсць ва што абуцца,*
*А што радкі калючыя пішу,*
*Дык гэта ад жадання агрызнуцца...*
*І нават страху подлага няма,*
*Ужо не страшаць лагер і турма...*

### Від з гарышча

*Глядзіш, як у небе, у сонечнай сіні,*
*Купаюцца ластаўкі з галубкамі,*
*А унізе ўзрываюць лычамі свінні*
*Зямлю, як адбойнымі малаткамі.*
*І думаеш з сумам: каб крылы былі,*
*Ўзляцеў бы на неба, далей ад зямлі...*

### Гісторык скажа

*Гісторык скажа: "Быў народ,*
*Што мовай продкаў пагарджаў,*
*Таму й няма яго сярод*
*Усіх народаў і дзяржаў,*
*Ён знік — як гуны, обры, прусы,*
*А называўся... "беларусы".*

### Навагодняя элегія

*Новы год не манну з неба*
*Абяцае нам, але*
*Верым, што кавалак хлеба*
*Бог галоднаму пашле.*

*Нездарма Ўладыка строга*
*Кажа пастве кожны раз,*
*Што начальства ўсё ад Бога*
*І даецца на заказ.*

*Мудры Бог дзеля вучэння*
*Нас карае за грахі,*
*Наша ў тым і прызначэнне,*
*Каб за ўсё плаціць даўгі.*

*Чуткі ходзяць у народзе,*
*Што чакаць не доўгі час,*
*Дваццаць першае стагоддзе*
*Ашчаслівіць многіх з нас.*

*А пакуль... Калі сумуеш,*
*Што знасіліся штаны,*
*Не сумуй, перазімуеш,*
*Недалёка да вясны...*

### Малітва бедных пенсіянераў

*Падоўжы, Божа, век нам, грэшным,*
*Бо труны ў жудаснай цане.*
*Стаў нават жарт злосліўца смешным,*
*Што ўсіх ён "бачыў у труне"...*
*Сягоння шмат мець грошай трэба,*
*Каб без праблем адбыць на неба...*

МІЛАСЭРНАСЦЬ

# Дзякуй за дапамогу Лідзе і яе дачушцы Ульянцы

Шмат людзей адгукнуліся на зварот Ады Райчонак, калі яна прасіла дапамагчы адзінокай маці з вёскі Радзюкі Шаркоўшчынскага раёна Лідзіі Зялёнка. Жанчына была ў бядотным становішчы — не маючы бацькоў, жывучы без мужа, яна гадуе дачку Ульяну, на пражыццё атрымлівае толькі 100 долараў дзяржаўнай дапамогі па доглядзе за дзіцем.



Калі ліст Ады Райчонак надрукавала "Народная Воля", Лідзія пачала атрымліваць грашовыя пераводы, пасылкі з рэчамі і цацкамі. Добрыя людзі прывезлі нават дровы...

І вось новы допіс спадарыні Ады.

Часта даводзіцца чуць, што беларусы — абыякавыя. Яшчэ іх называюць пафігістамі, кажуць, што ім усё да фені. Жыццё шматвяковае пад пятой старэйшага брата не прайшло бясследна, але яно не вынішчыла лепшыя рысы душы нашага чалавека. Гэта ведаю з дзіцячых гадоў, бо я выжыла ў час ваеннага ліхалецця толькі дзякуючы чалавечай дабрыні і спагадлівасці. І мне, напэўна, пашчасціла на добрых людзей, якія сустракаюцца на маім жыццёвым шляху.

Некалькі месяцаў таму я папрасіла дапамагчы Лідзе Зялёнка, якая трапіла ў цяжкія жыццёвыя абставіны. Я спадзявалася на тое, што мяне ў Беларусі шмат хто ведае і людзі не будуць абыякавымі да маёй просьбы. Так яно і сталася.

На дапамогу Лідзе прыйшлі людзі з розных куткоў Беларусі. Ёй слалі грошы, абутак, адзенне, нават дровы прывозілі, цацкі для маленькай Ульянкі...

Бачылі б вы, як радасна зіхацяць вочкі маленькай дзяўчынкі, калі яна гуляе са сваім цацачным багаццем, якога ў яе ніколі не было. Хутка Ульянцы споўніцца тры гадочкі, і толькі цяпер Ліда дзякуючы людской падтрымцы можа накарміць дачушку добрай ежай.

А калісьці малая ела бульбачку ў мундзірах... А яе маці ад безвыходнасці прыходзілі ў галаву дурныя думкі. Ведаеце, як балюча чуць з вуснаў маладой прыгожай жанчыны горкія словы: "Іншы раз хочацца рукі на сябе накласці ад безвыходнасці". І толькі любоў да дачушкі ўтрымлівала яе ад граху.

Зараз у яе з'явілася шмат сяброў, якія падтрымалі яе не толькі матэрыяльна, але і маральна. Яны цікавяцца яе здароўем і здароўем Ульянкі, прапаноўваюць дапамогу ў лекаванні...

Аляксандр Путаў з Віцебска тэлефануе і прапануе, каб Ліда і Ульяна пажыла ў яго, пакуль будуць праходзіць ультрагукавое даследаванне і розныя аналізы. Стары добры адзінокі чалавек усім сэрцам пранікся Лідзінай бядой і стараецца ёй дапамагчы. І такіх людзей шмат, вельмі шмат. Са мной яна раіцца па ўсіх пытаннях, як з маці. Расказвае мне, што ёй дасылаюць. І я кожны раз радуюся за яе.

Зараз гэта ўжо іншая Ліда. У яе вачах з'явіўся бляск.

Але бывалі выпадкі, калі яна плакала мне ў тэлефонную трубку. Людская зайздрасць — страшная рэч!.. Знаходзіліся людзі ў вёсцы, якія казалі ёй у вочы: "А табе не сорамна атрымліваць усё ад незнаёмых людзей? А хто ты такая, што табе шлюць, а не нам?" Пужалі яе падатковай.

Адна жанчына нават патэлефанавала рэдактару мясцовай незалежнай газеты "Вольнае Глыбокае" і спыталася, як гэта зрабіць, каб Лідзіі Зялёнка больш нічога не слалі. Пагражала прайсціся па вёсцы і сабраць подпісы на гэты конт. Я разумею, што можна папрасіць, каб дапамаглі. Але ніяк зразумець не магу, як можна прасіць, каб не дапамагалі.



І ўсё ж такі, нягледзячы на такія з'явы ў нашым жыцці, я сцвярджаю: беларусы добрыя, шчырыя, спагадлівыя да чужой бяды людзі, а не абыякавічы, пафігісты і г.д. І вялікі вам дзякуй і нізкі паклон за тое, што вы мяне пачулі і дапамаглі Лідзе і Ульянцы, вярнулі ёй веру ў людзей!

**Ада РАЙЧОНАК.**
**Фота Зміцера ЛУПАЧА.**

*Шаркоўшчынскі раён.*

ПОВОРОТ

## *За них свою жизнь я не отдал бы*

Я прослужил 38 лет в Советской Армии. В основном — в северных районах, за 69-й параллелью. Служил не за страх, а за совесть. Психологически подготовил себя к тому, что не сделаю ни шагу назад, лучше смерть, чем драпать от врага.

В сегодняшней ситуации я бы уже так не думал. У нас появилось невесть откуда много богатых людей, и я не стал бы за них отдавать свою жизнь. У них есть что защищать — вот пусть они и платят военнослужащим, чтобы те их защищали.

**Н.РАЗНОБАРСКИЙ (подпись написана неразборчиво).**

*Минск.*

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

## *К ним можно попасть на прием*

Позавчера в редакцию зашел наш старый читатель. И предложил: напечатайте график приема граждан руководством Минского горисполкома на февраль.

А что, пусть люди знают, когда и к какому начальнику можно попасть на прием. График читатель предоставил редакции в ксерокопированном виде, так его и публикуем.

**ГРАФИК**
приема граждан руководством Минского городского исполнительного комитета на февраль 2013 года

| Должность | Ф.И.О. | Дата приема | Время |
|---|---|---|---|
| Председатель горисполкома | **ЛАДУТЬКО Николай Александрович** | среда 6<br>суббота 16 | 14.00-20.00<br>12.00-14.00 |
| Первый заместитель председателя (руководство жилищно-коммунальным хозяйством и энергетикой) | **Кухарев Владимир Евгеньевич** | понедельник 11<br>суббота 16 | 15.00-20.00<br>9.00-12.00 |
| Зам. председателя горисполкома (руководство градостроительным комплексом) | **Галь Андрей Вадимович** | суббота 2<br>четверг 21 | 9.00-12.00<br>15.00-20.00 |
| Зам. председателя исполкома (руководство комплексом промышленности и связи) | **БИРИЧ Жанна Эдуардовна** | среда 6 | 15.00-20.00 |
| Зам. председателя горисполкома (руководство сферой предпринимательства, торговли и обслуживания населения) | **Доморацкий Андрей Владимирович** | среда 13<br>суббота 23 | 8.00-13.00<br>9.00-12.00 |
| Зам. председателя горисполкома (руководство сферой образования, здравоохранения, физической культуры, спорта и туризма) | **КАРПЕНКО Игорь Васильевич** | среда 27<br>суббота 9 | 8.00-13.00<br>9.00-12.00 |
| Управляющий делами (организация работы с обращениями граждан, юридических лиц, индивидуальных предпринимателей, вопросы землепользования) | **КОТОВ Николай Александрович** | среда 20<br>суббота 16 | 8.00-13.00<br>9.00-12.00 |

*Примечание: Предварительная запись на прием с 8.45 до 13.00 и с 14.00 до 18.00 (в пятницу до 16.45)*

Начальник отдела по работе с обращениями граждан и юридических лиц О.Ю.Делук

